# КРЫВІНКА

САКАВІК
№ 4 (212)
2018 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА


Хай воля вечна будзе з намі
1918 • 2018
Беларуская Народная Рэспубліка

РЫНАК ПРАЦЫ

## ВАКАНСІІ Ў БЕШАНКОВІЦКІМ РАЁНЕ

**У параўнанні са снежнем мінулага года на пачатак сакавіка 2018 года ў базе даных Дзяржаўнай службы занятасці па Бешанковіцкаму раёну маецца на 6 вакансій больш. Цяпер іх налічваецца 57. Пераважная большасць іх прапаноўвае 300 — 500 рублёвыя заробкі.**

Сярод вакансій заслугоўваюць увагі вакансіі галоўнага інжынера і начальніка аддзела "Націвіты" з заробкам ад 3000 рублёў, галоўнага агранома раённай інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы наваколля з заробкам ад 500 рублёў, трактарыста на льнозаводзе з заробкам ад 570 рублёў.

Па-ранейшаму на "Белкатламашы" патрабуецца дырэктар прадстаўніцтва па Паўночнаму Захаду Расейскай Федэрацыі з заробкам 1200 руб., менеджар па персаналу з вышэйшай адукацыяй і заробкам ад 550 руб. і галоўны канструктар вышэйшай адукацыяй і заробкам ад 900 руб. Тут шукаюць таксама інжынера па матэрыяльна-тэхнічнаму забяспячэнню на грошы ад 500 рублёў і кіроўцу аўтамабіля з аплатай ад 450 рублёў.

АТП -21 патрабуецца кіроўца аўтамабіля "С" (400 руб.) і інжынер з заробкам ад 500 руб.

ПМК-41 шукае дапаможных работнікаў з заробкам ад 350 рублёў, машыніста аўтакрана з заробкам 600 рублёў і кіроўцаў аўтамабіля катэгорыі "С" і "Е" з заробкам ад 600 рублёў.

Бешанковіцкі лясгас шукае элеатраманцёра па рамонту і абслугоўванню электраабсталявання з заробкам ад 360 рублёў, кіроўцу аўтамабіля на ГАЗ-66 з заробкам ад 600 рублёў. Такі ж заробак прапануюць тут і трактарысту.

"Наватар" шукае кіроўцаў аўтамабіля і трактарыстаў з заробкам ад 400 руб.

"ПлісыАгра" шукае галоўнага бухгалтара на 400-рублёвы заробак і заатэхніка на 320 рублёў.

"Літуаніялес" шукае станочнікаў дрэваапрацоўчых станкоў і прапануе ім заробак ад 330 рублёў. Дзяржаўнаму прадпрыемству "ДраздыАгра" патрэбен заатэхнік, аграном і ветэрынар з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй і заробкам ад 400 рублёў.

Бешанковіцкі льнозавод шукае інжынера-энергетыка на заробак ад 350 рублёў.

"Бешанковіцкі аграсервіс" шукае аператараў машыннага даення з аплатай ад 320 рублёў, бухгалтара і заатэхніка з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй на 310 рублёў і галоўнага ветэрынара з аплатай ад 350 рублёў.

УП"Вядзерава" шукае галоўнага інжынера і галоўнага заатэхніка з вышэйшай адукацыяй і аплатай ад 500 рублёў, трактарыста з аплатай 350 рублёў.

Прадпрыемства "Свіціна ВМК" шукае ветэрынара з вышэйшай адукацыяй і заробкам ад 500 руб., заатэхніка з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй і заробкам ад 400 рублёў, кіроўцу аўтамабіля катэгорыі "С" і "Д" (МАЗ з прычэпам) з заробкам ад 400 рублёў.

Біль-Бімба плюс" шукае швеяў з заробкам 310 рублёў.

ПГУП "ВаяжТрансЛагісцік" шукае кіроўцу аўтамабіля (лепш міжнародніка) на 315 руб.

Раённае аддзяленне МНС цэлы год шукае ратавальніка-пажарнага з агульнай сярэдняй адукацыяй і заробкам 400 рублёў.

Нарэшце РСТ (райпо) традыцыйна шукае прадавачак у магазіны Бешанковічаў, Крупеніна, Будзілава, Сініц і Вярхоўя (350 руб) і кіроўцу аўтамабіля з заробкам ад 305 рублёў.

Тэлефоны арганізацый, якія прапануюць вакансіі, можна знайсці на сайце http://gsz.gov.by

**А Тутэйшы**

Партал твайго горада: http://beshankovichy.by

****

*Сьнег усю ноч мяце. Хвалі дзюнаў-сумётаў*
*наўкола маёй хаціны, як гарады, ўзьняліся.*
*Пэўна, на сьнег багі выдалі новую квоту,*
*ды не зьбіраюся я гэтым багам маліцца!*

*Хаця пры ўсіх недахопах сьнег – элемент жыцьцядайны:*
*больш яго намяце – вышэй краіны бясьпека.*
*Вырасьце кукуруза – і ўсё будзе ў нас выдатна –*
*ў краіне, дзе кукуруза вышэй за чалавека.*

*Сьнегу бракуе сяброў. Шуфель сумёту – вораг.*
*Ён на хвіліны лічыць сьнежны час валадарства.*
*Можна плакаць наўзрыд, як у дзяцінстве, з гора,*
*толькі лепей шуфляць. (Справа налева, спадарства!)*

*Вецер сьнежнаму пылу сябра-дружбан найлепшы,*
*яны вечна носяцца ўдвох, два сабутэльнікі – пара.*
*Быццам язычнік я, паміж сумётаў укленчу,*
*толькі шуфель не пакіну, ён мне – дарагі таварыш.*

*Сьлед адшукаю свой, дзе ён патануў учора*
*і не падаў пакуль ні СМС-кі, ні гуку.*
*А да плячэй упарта моўчкі крадзецца змора,*
*быццам з засады зьвер, сочыць за кожным рухам.*

*Ноччу ў сьвятле машын сьнег фантастычна-хуткі,*
*белыя матылі таньчаць, нібыта сп'янеўшы.*
*На прыпынку ў сумёце мрояць пра лета маршруткі,*
*як дыназаўры, чагось смачнага пераеўшы.*

*Падобны хаос цяпер пануе на кожным кроку,*
*апроч ватняй коўдры Расеі, дзе ўсё па-магільнаму ціха.*
*Я пракапаю тунэль да самага сэрца Эўропы,*
*толькі б ня зьбіцца ўбок, навошта будзіць тое ліха!*

***Г.Станкевіч***

РАЙСАВЕТ

## АБРАЛІ СТАРШЫНЮ РАЙСАВЕТА

**Выбары новага старшыні райсавета ў Бешанковічах прайшлі 1-га сакавіка 2018 года безальтэрнатыўна, як, дарэчы, і абранне 18-га лютага абсалютнай колькасці саміх дэпутатаў.**

Па выніках тайнага галасавання пасаду старшыні раённага Савета дэпутатаў захаваў Генадзь Шведаў - яго кандыдатуру народныя абраннікі ахвотна падтрымалі. У сваіх выступах дэпутаты адзначалі, што пасаду старшыні райсавета мусіць заняць чалавек годны, які мае пэўны досвед працы, які імкнецца працаваць на карысць землякоў, сціплы і працавіты, які старанна выконвае любую справу. На іхнюю думку, усімі гэтымі высокімі якасцямі валодае спадар Шведаў, які карыстаеццабясспрэчнымаўтарытэтам і глыбокай павагай у актыву раёна.

Падзякаваўшы калегаў за аказаны давер, Г. Шведаў заявіў, што ўпэўнены ў тым, што абноўлены дэпутацкі корпус здолее правільна выбудаваць працу ў сучасных умовах і апраўдае чаканні людзей, а аб'яўленне 2018 года Годам малой радзімы стане стымулам для кожнага, каб праявіць стваральную ініцыятыву.

Намеснікам старшыні раённага Савета дэпутатаў была абрана дэпутат Драздоўскай выбарчай акругі №20 Таццяна Ждановіч.

Старшыня райвыканкама Андрэй Булаўкін даў наказ новаму складу раённага Савета дэпутатаў. Ён нагадаў, што людзі, якія галасавалі за дэпутацкі корпус 28-га склікання, спадзяюцца на яго бескарыслівую працу на карысць землякоў.

Спадар Булаўкін падкрэсліў: "Спадзяюся на сумесную плённую працу дэпутацкага корпуса і раённага выканаўчага камітэта, на вашу падтрымку. За апошнія гады ў раёне шмат зроблена, але трэба будзе зрабіць яшчэ больш. Калі не будзе росту вытворчасці, не будзе і прагрэсу. А гэта мае на ўвазе і працаўладкаванне грамадзян, і зніжэнне сацыяльнай напружанасці, і рост зарплаты, і - як вынік - павышэнне дабрабыту грамадзян".

**М.Васільеў**
**па матэрыялах раённай газеты**

ЭКАНОМІКА

## ПАДПІСАНА ПАГАДНЕННЕ

**У лютым у раённым выканаўчым камітэце было падпісана Пагадненне аб супрацоўніцтве паміж Бешанковіцкім раёнам Віцебскай вобласці Рэспублікі Беларусь і Люблінскім Паветам Люблінскага ваяводства Рэспублікі Польшча.**

Візіт дэлегацыі дзелавых колаў Рэспублікі Польшча ў Віцебскую вобласць арганізаваны Віцебскім аддзяленнем Беларускай гандлёва-прамысловай палаты (БелГПП) сумесна з Нацыянальнай асацыяцыяй экспарцёраў Польшчы.

У яе склад увайшлі Прэзідэнт Нацыянальнай асацыяцыі экспарцёраў Рышард Томаш Новак, прадстаўнікі органаў мясцовага кіравання гміны Немцэ: Урбась Кшыштоф — кіраўнік гміны, Мрожека Славамір — старшыня савета гміны, Бжазоўскі Гжегаш — намеснік інспектара камуны гміны, а таксама бізнес-супольнасці: Дыбала Вальдэмар — уладальнік кампаніі па вытворчасці тынкавых 3D-дэкаратыўных панэляў «Dunes», Вазняк Еўгеніюш — прэзідэнт кампаніі па перапрацоўцы мяса «RYJEK» SP. J., Марыюш Адам Бештак — уладальнік транспартнай кампаніі «IMPEX-TRANS».

Замежных гасцей у раённым выканаўчым камітэце прымалі старшыня Бешанковіцкага райвыканкама А. Булаўкін, старшыня раённага Савета дэпутатаў Г. Шведаў, намеснікі старшыні райвыканкама Т. Ждановіч і М. Заблоцкі. На сустрэчы прысутнічалі начальнік аддзела эканомікі райвыканкама Л.Хадзянок і дырэктар НВП «Белкатламаш» А. Валадзько.

Трэба сказаць, што паміж нашымі рэгіёнамі ёсць шмат агульнага. Гміна Немцэ — сельская воласць у Польшчы, як адміністрацыйная адзінка яна ўваходзіць у Люблінскі павет Люблінскага ваяводства. Колькасць насельніцтва тут супастаўная з нашым раёнам — у гміне Немцэ пражываюць 18.074 чалавекі. Найбольш развітымі напрамкамі эканамічнай дзейнасці ў гміне з'яўляюцца: гандаль — 27%, будаўніцтва — 17,8%, аўтамабільны транспарт — 8%, ахова здароўя — 5,3%.

Сярод найбуйнейшых прадпрыемстваў у гміне немцамі лічацца стаматалагічная фармакалогія «Akrona», аптовы гандаль ўзяла на сябе фірма «Elizowka», рынкам будаўнічых

*(працяг на стар. 2)*

ЭКАНОМІКА

*(пачатак на стар. №1)*
матэрыялаў запраўляюць кампаніі «PPMB Niemce» і «Proxim», вытворчасцю круп, макароннай прадукцыі, сухіх сняданкаў займаецца «As-Babuni», перапрацоўкай мяса -"Ryjek", дзвярэй і вокнаў – "Frezbud", металургічным і хімічным вытворчасцю –"Stanchem".

У ходзе сустрэчы ў райвыканкаме абмяркоўваліся напрамкі супрацоўніцтва паміж нашымі рэгіёнамі, магчымасці развіцця ўзаемавыгадных міжрэгіянальных сувязяў, наладжвання эканамічных адносін. Дырэктару НВП «Белкатламаш» А. Валадзько прадставілася магчымасць распавесці гасцям аб сваім прадпрыемстве, якое спецыялізуецца на распрацоўцы і вытворчасці энергазберагальных катлоў для ацяплення, што працуюць на аднаўляльных відах паліва.

Затым старшыня раённага выканаўчага камітэта Андрэй Булаўкін і кіраўнік гміны Немцэ Урбась Кшыштаф свае намеры аб далейшай дружбе замацавалі подпісамі ў Пагадненні аб супрацоўніцтве. Бакі дамовіліся наладзіць двухбаковы абмен інфармацыяй і падтрымліваць інтарэсы суб'ектаў гаспадарання, садзейнічаць кантактам і партнёрскім адносінам дзелавых колаў.

У працяг знаёмства з Бешанковіцкім раёнам дэлегацыю дзелавых колаў Рэспублікі Польшча запрасілі на вытворчасць у НВП «Белкатламаш». А.Валадзько правёў для гасцей экскурсію, пазнаёміў з вытворчымі магутнасцямі.

— Наша прадпрыемства выпускае больш за 60 найменняў катлоў цеплавой магутнасцю ад 100 кВт да 12 МВт, якія працуюць на цвёрдым, вадкім і газападобным паліве. Катлы прызначаныя для ацяплення жыллёва-камунальных і прамысловых аб'ектаў, генерацыі пара і гарачай вады, — распавёў Аляксандр. — Уся прадукцыя прайшла сертыфікацыю ў Рэспубліцы Беларусь і Расійскай Федэрацыі, а таксама атрыманы сертыфікат адпаведнасці СТБ IS0 9001-2009. Асаблівую ўвагу «Белкатламаш» надае распрацоўцы кацельнага абсталявання, якое працуе на біяпаліве. Падвышаным попытам карыстаюцца катлы, якія працуюць на фрэзерным торфе.

«Пабрацімства рэгіёнаў розных краін я б паставіў у шэраг найбольш эфектыўных інструментаў для пераменаў да лепшага, важным складнікам рэалізацыі большасці задач па павышэнню ўзроўню і якасці жыцця людзей, — пракаментаваў Прэзідэнт Нацыянальнай асацыяцыі экспарцёраў Рышард Томаш Новак. — Зацікаўленасць у больш паспяховым развіцці свайго паселішча, раёна (воласці) немінуча выводзіць дальнабачных кіраўнікоў на ўзаемакарысныя кантакты, на пошук ўнутраных і знешніх рэсурсаў. А гэта кансалідаванае ўзаемадзеянне лакальных сіл, уключаючы бізнес, адукацыйныя інстытуты і, вядома ж, магчымасці знайсці партнёраў з іншых рэгіёнаў і краін ».

Падчас візіту ў Віцебскую вобласць дэлегацыя дзелавых колаў Польшчы таксама наведала шэраг беларускіх прадпрыемстваў і правяла перамовы з іх кіраўніцтвам. Выязныя сустрэчы адбыліся ў ТАА «РуБелЭко» (вытворчасць будаўнічых матэрыялаў), ТАА «РуБелЭко» (вытворчасць будаўнічых матэрыялаў), ТАА «Мадэрн-Экспа» (вытворчасць гандлёвага абсталявання), на кандытарскай фабрыцы «Віцьба». Арганізавана рабочая сустрэча ўдзельнікаў дэлегацыі з кіраўніцтвам СЭЗ «Віцебск», падчас якой вывучаны магчымасці, якія прадстаўляюцца рэзідэнтам для рэалізацыі інвестыцыйных праектаў. Дасягнуты дамоўленасці і падпісана пагадненне паміж Нацыянальнай асацыяцыяй экспарцёраў Польшчы і СЭЗ «Віцебск» аб далейшым супрацоўніцтве.

**"Зара"**

НАША ПАМЯЦЬ

# ДА ГАДАВІНЫ ТРАГЕДЫІ

**Сёлета, на 76-ю гадавіну жахлівай трагедыі – расстрэлу вязняў Бешанковіцага гета – у Бешанковічы зноў завіталі госці. Сярод іх былі пісьменнік, галоўны рэдактар часопіса "Мишпоха" Аркадзь Шульман і ініцыятар аднаўлення габрэйскіх магілак ў Бешанковічах Ганна Клімовіч.**

Разам з мясцовымі жыхарамі і прадстаўнікамі ўлады яны наведалі месца расстрэлу, каб аддаць даніну павагі, ушанаваць памяць тых, хто быў жорстка забіты ў далёкім 1942-м. Каля помніка ўзгадалі і тых, хто быў жорстка забіты, і тых, хто дапамагаў змагацца з фашызмам, адстойваў мір, і тых, хто з немалой рызыкай па добрай волі перахоўваў габрэяў. Узгадалі мужных і адважных герояў, якія змагаліся на акупаваных тэрыторыях, вялі партызанскую вайну.

Прыехаць сюды, каб аддаць даніну памяці, яны лічаць святым абавязкам жывых перад памерлымі. Напрыканцы мерапрыемства равін Малкіэль Гаргодзэ прачытаў памінальную малітву.

Пасля жалобы госці завіталі да мясцовага каваля Андрэя Трубецкага і наведалі раённы гісторыка-краязнаўчы музей.

Завяршылася мерапрыемства ў чытальнай зале цэнтральнай раённай бібліятэкі, дзе перад прысутнымі выступіў Станіслаў Леаненка. Ён распавёў пра лёс ураджэнца мястэчка Бешанковічы Майсея Цёмкіна, які здолеў выжыць у той няпросты час. Станіслаў Пятровіч перадаў бібліятэцы кнігу ўспамінаў Майсея Веніямінавіча "Am Rande des Lebens"(На краі жыцця), якая выйшла ў друк у снежні 2017-га ў Германіі.

Адзін з гасцей мерапрыемства і непасрэдны ўдзельнік аднаўлення габрэйскіх могілак у Бешанковічах, якое праходзіла ў нашым райцэнтры апошнімі гадамі, Аляксандр Ходак падзяліўся думкамі, што з'явіліся ў яго пасля наведвання ізраільскага нацыянальнага мемарыяла Катастрофы і Гераізму Яв Вашэм. Гэта сусветна вядомы ерусалімскі цэнтр ушанавання і вывучэння трагедыі габрэйскага народу.

**М.Васільеў**
**па матэрыялах**
**раённай газеты**

ГАНДАЛЬ

# НОВАЯ КРАМА АДЗЕННЯ "ГАРДЭРОБ"

**Магазін, які адчыніў свае дзверы напярэдадні 8-га сакавіка, размяшчаецца ў самым цэнтры горада (былы "Вузел сувязі", другі паверх) і спецыялізуецца на адзенні. Прычым, як падкрэсліў яго ўладальнік, асноўная частка тавараў будзе каштаваць "не вышэй за 50 рублёў".**

Прадпрымальнік распачаў сваю справу па афармленню неабходных дакументаў у сярэдзіне студзеня, і за паўтара месяца змог дабіцца адкрыцця гандлёвай кропкі. Памяшканне крамы рамантаваць не прыйшлося, хаця, са слоў прадпрымальніка, у абсталяванне і тавар прыйшлося ўкласці ладныя грошы. У дадатак за магазін трэба будзе плаціць арэнду гаспадару памяшкання.

Усе тавары завезеныя ў магазін, маюць турэцкае паходжанне і добрую якасць. Пакуль што тут няма памераў за 50, але ўласнік крамы запэўнівае, што тое толькі справа часу.

Пажадаем яму поспехаў у новай справе.

**А.Тутэйшы**

НАША ЖЫЦЦЁ

# УЛЬСКІ ЛІЦЭЙ

**У сучасным грамадстве існуе меркаванне, што прафтэхвучэльні і ліцэі — доля няўдачнікаў.**

Нічога падобнага! Я пераканалася ў гэтым пасля наведвання Вульскага дзяржаўнага ліцэя сельскагаспадарчай вытворчасці імя Льва Даватара, што ў Бешанковіцкім раёне. Тутэйшыя навучэнцы не адчуваюць сябе ў чымсьці абдзеленымі. Са слоў дырэктара Аляксандра Пашкевіча, у Вульскі ліцэй паступаюць не толькі Бешанковіцкага хлопцы, але і з суседніх раёнаў. Ліцэй дае гарантаванае месца ў інтэрнаце, бясплатнае трохразовае харчаванне ў сталовай і падвоз выхаванцаў. Асаблівы гонар ліцэя - былыя навучэнцы, якія працягнулі адукацыю, а затым вярнуліся ў альма-матэр у ролі выкладчыкаў. У іх ліку і майстар вытворчага навучання па кваліфікацыі «кухар» Святлана Галавій.

Як прызналася Святлана Мікалаеўна, калі прыйшоў час вызначацца з выбарам прафесіі, доўга не разважала. З-за фінансавых складанасцяў у сям'і вучыцца ў горадзе было б няпроста. Таму дзяўчына прыняла рашэнне паступаць у Вульскі ліцэй. Вучоба Святлане давалася лёгка, таму што гэта было вельмі цікава.

Пасля заканчэння ліцэя маладога спецыяліста размеркавалі поварам у Вульскую сярэднюю школу. Падчас працы Святлана Галавій паступіла на завочную форму навучання ў індустрыяльна-педагагічны каледж, дзе паспяхова асвоіла прафесію тэхніка-тэхнолага, майстры вытворчага навучання.

З'явілася сям'я, дзеці. А цяпер Святлана Мікалаеўна зноў студэнтка завочнага аддзялення, толькі ўжо ВДУ ім. П. Машэрава, і атрымлівае кваліфікацыю алігафрэна-педагога. Да гэтага майстар вытворчага навучання ішла мэтанакіравана, бо ў ліцэі ёсць спецыяльныя групы, дзе вучацца дзеці з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця.

Далёка не ва ўсіх ССНУ краіны сёння можна атрымаць адукацыю кухара 4-га разраду, а ў Вульскім ліцэі для гэтага створаны ўсе ўмовы.

- Імкнуся ў даступнай форме паднесці навучэнцам тэхналогію прыгатавання ежы не толькі ў тэорыі, але і на практыцы, - кажа Святлана Мікалаеўна. - Пагадзіцеся, лепш убачыць і самому паспрабаваць нешта зрабіць, нават калі спачатку з памылкамі.

Падчас іспыту кожны навучэнец рыхтуе сваю страву па праграме і потым абараняе, распавядае, якія выкарыстаў інгрэдыенты, тлумачыць тэхналогію прыгатавання. Затым ідзе тэарэтычная частка выпрабаванняў.

Святлана Галавій прызналася, што вельмі любіць эксперыментаваць ў падрыхтоўцы страў, сумяшчаць незвычайныя інгрэдыенты. Нядаўна вось прыдумала клёцкі з сушаных грыбоў і баранавага фаршу, якія сталі любімымі ў яе дамачадцаў.

Дарэчы, у мінулым годзе за кошт бюджэтных сродкаў кухню, яна ж лабараторыя, дзе хлопцы праходзяць навучанне, сур'ёзна абнавілі: памянялі пліты і абсталяванне, посуд.

- У ліцэі вучым хлопцаў не толькі пэўнай прафесіі. Дадаткова стараемся іх раскрыць, напрыклад, у спорце або творчай дзейнасці. У школе многія з гэтых дзяцей праседзелі на галёрцы, нікім не заўважаныя. У нас жа, па словах саміх навучэнцаў, больш хатняя абстаноўка, і кожны з іх нібы расквітае, знаходзіць у сабе таленты, - дадае намеснік дырэктара па вучэбна-вытворчай рабоце Лілія Сачыўка. - Калі казаць пра значныя дасягненні, то каманда ліцэістаў на чале з былым кіраўніком па фізічным выхаванні Іванам Бандарэнкам, які цяпер знаходзіцца на заслужаным адпачынку, двойчы прымала ўдзел у Спецыяльных Алімпійскіх гульнях. Гэта аналаг Паралімпійскіх гульняў, толькі для людзей з асаблівасцямі псіхічнага развіцця. У 2010 годзе наша баскетбольная каманда з спаборніцтваў у Польшчы прывезла дадому сярэбраныя медалі. У 2012-м хлопцы былі ў Грэцыі, з Афін вярнуліся залатымі прызёрамі. Шматлікія граматы, дыпломы і кубкі даўно ўжо не змяшчаюцца ў адным кабінеце.

Словам, пабываўшы ў Вульскім ліцэі, разумееш, што прафесіі, якія хлопцы тут атрымліваюць, заўсёды будуць запатрабаваныя і прэстыжныя. Выбар за вамі, абітурыенты!

**Кацярына Ляхоўская**
**"Віцебскія весці"**

## АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Крывінка» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

*• Калі прачыталі "Крывінку", то калі ласка, перадайце знаёмым.*

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamnikat.org/kryvinka.html каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

СТАГОДДЗЕ БНР

# АДМІНІСТРАЦЫЯ ЗВЯРТАЛАСЯ ДА АКАДЭМІІ НАКОНТ РОЛІ БНР

**Адміністрацыя прэзідэнта ў год 100-гадовага юбілею абвяшчэння БНР звярнулася ў Акадэмію навук з просьбай падрыхтаваць абгрунтаванне ролі БНР у гісторыі Беларусі: прасіла навукова патлумачыць, што гэта такое і як да гэтага варта ставіцца.**

Пра гэтую замову «Нашай Ніве» паведамілі вартыя даверу крыніцы.

Тую выкладку рыхтаваў Інстытут гісторыі Акадэміі навук.

Пазіцыя, сфармуляваная навукоўцамі, даведзена да ідэалагічнага кіраўніцтва краіны, да кіраўнікоў ведамстваў, а далей будзе спушчана па «вертыкалі» ўніз.

Відаць, што амаль ідэнтычныя выказванні міністраў і топ-чыноўнікаў пра БНР і ёсць вынікам знаёмства з той справаздачай гісторыкаў.

Але што канкрэтна яны напісалі?

На жаль, дырэктар Інстытута гісторыі Вячаслаў Даніловіч адмовіўся агучыць дэталі.

«Без каментароў, — сказаў ён. — Ёсць нормы, якія мы мусім выконваць, гэта [быў] непублічны запыт. Але нашай пазіцыі па БНР мы не хаваем».

Даніловіч параіў глянуць раздзел, прысвечаны БНР, у двухтомніку «Гісторыі беларускай дзяржаўнасці»: «Мы кіруемся пазіцыямі, якія там выкладзеныя, — патлумачыў ён. — Таксама мы яшчэ раз агучым сваё бачанне на канферэнцыіі 15–16 сакавіка ў Акадэміі навук».

Варта прывесці цытаты аўтараў той кнігі, на якую спасылаецца Даніловіч, каб зразумець, што магло быць у аналітычнай запісцы для чыноўнікаў пра ролю БНР.

«Мы, як гісторыкі, павінны сказаць, што абвяшчэнне БНР — гэта гістарычна абумоўленая падзея.

Факт абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі і дзейнасць яе Рады — гэта была першая спроба не толькі прадэклараваць, але і ажыццявіць практычныя захады ўтварэння беларускай дзяржаўнасці, што мае вялікае гістарычнае значэнне. Абвяшчэнне БНР аказала значны ўплыў на фарміраванне нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа, стала важным крокам далейшага дзяржаватворчага працэсу.

Ад размоў аб фарміраванні беларускай ідэі мы прыйшлі да рэалізацыі гэтых ідэй. Ідэі за дзень не фарміруюцца, а ўзнікаюць дзякуючы таму, што было ўжо напрацавана ў грамадстве. Канец XIX — пачатак XX стагоддзя — час, калі сапраўды ідэя беларускай дзяржаўнасці была сфармулявана і нават зроблена спроба яе рэалізаваць», — казаў пра даследаванне «Гісторыя беларускай дзяржаўнасці» колішні дырэктар Інстытута гісторыі Аляксандр Каваленя.

«Мы лічым вельмі важным даводзіць да шырокай грамадскасці погляд на нашу гісторыю з пункту гледжання беларусаў.

Калі мы гэта не будзем рабіць, то можам атрымаць польскі, украінскі, расійскі варыянт нашай гісторыі, а ў нас павінен быць уласны погляд на гістарычныя падзеі, якія адбываліся на нашай тэрыторыі.

Сапраўды, формы ўлады БНР былі зародкавыя. Пры спрыяльных умовах яны маглі перарасці ў рэальную структуру. Але гэта ні ў якай меры не прымяншае важнасці і значнасці для нашай гісторыі самога факта абвяшчэння (упершыню за тысячагоддзі) права беларусаў на нацыянальнае самавызначэнне», — дадаваў сам Вячаслаў Даніловіч.

«Пытанне дзяржаўнасці вельмі шчыльна звязана з пытаннем існавання асобнага народа. Няма асобнага народа — няма пытання пра асобную дзяржаву, увогуле няма прадмету для размовы. Таму лідары беларускага нацыянальнага руху на пачатку XX стагоддзя займаліся сцвярджэннем гэтага факта ў грамадскай думцы Беларусі і ўвогуле ўсёй Расійскай імперыі: ёсць беларуская нацыя, якая мае свае палітычныя правы і галоўнае — права на ўласную дзяржаву. Галоўнымі асобамі беларускага нацыянальнага руху былі браты Луцкевічы, Іван і Антон, і Вацлаў Іваноўскі», — гэта словы іншага аўтара, кандытата гістарычных навук Андрэя Унучака.

«Да гэтага беларусы не мелі вопыту дзяржаўнага будаўніцтва. Цяпер яны ўзяліся за яго.

У гэтым сіла БНР: у полымі Першай сусветнай вайны беларусы, закасаўшы рукавы, імкнуліся стварыць сваю ўласную дзяржаву. Гарыць зямля, свет гарыць, а тут людзі, на тэрыторыі, падзеленай франтамі, увасабляюць ідэю ў жыццё. Ці ж гэта не гераізм?

БНР — гэта беларуская дзяржава, якую паспрабавалі стварыць дзеячы ў найскладанейшай геапалітычнай сітуацыі ва ўмовах Першай сусветнай вайны, а канкрэтна — у рэаліях Брэсцкага міру 1918 года. Вакол гэтага пытання разгортваліся гарачыя спрэчкі. Адны казалі: так, была беларуская дзяржава, іншыя: не, яна не адбылася. Сёння мы зусім па-іншаму разглядаем гэтыя пытанні.

Мы вядзём гаворку пра тое, што БНР была нацыянальнай формай беларускай дзяржаўнасці.

Гэта стала магчымым дзякуючы таму, што ў калектыўнай манаграфіі „Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII — пачатку XXI ст." упершыню ў беларускай гістарыяграфіі распрацавана і рэалізавана новая канцэпцыя гісторыі беларускай дзяржаўнасці», — словы кандыдата гістарычных навук Мікалая Смяховіча.

**Арцём Гарбацэвіч**
***"Наша Ніва"***

У СВЕЦЕ

# ВИЦЕ-ПРЕМЬЕР НАЗВАЛ ГЛАВУ РПЦ «СИГАРЕТНЫМ ПАТРИАРХОМ»

**Скандал разразился из-за критики патриарха Кирилла в адрес болгарского президента.**

Вице-президент Болгарии заявил, что патриарх Московский и всея Руси Кирилл «не является посланником Иисуса Христа» и «известен как сигаретный митрополит», «второразрядный агент советского КГБ».

— Этот человек не спустился с небес, не вышел из Рая и не является посланником Иисуса Христа. Он известен как сигаретный митрополит России. С 1996 года он ввёз на 14 миллиардов долларов безакцизных сигарет и на 4 миллиарда долларов вина для нужд церкви. У него есть частный самолёт и вилла в Швейцарии. Его часы стоят 30 тысяч. Кто он? Это не православный священник. Это агент Михайлов, второразрядный агент советского КГБ. И этот человек имеет наглость судить, — заявил вице-премьер Болгарии Валерий Симеонов 7 марта.

С таким заявлением он выступил после того, как российский патриарх раскритиковал президента Болгарии Румена Радева во время празднования 140-летия независимости и освобождения Болгарии от османского ига.

Кирилл обратил внимание, что произнося торжественную речь, Радев выразил признательность не только русским, но и другим народам Российской империи, воевавшим в составе ее армии: украинцам, белорусам, полякам, румынам, латышам, финнам, сербам и черногорцам.

В ответ патриарх заявил, что Болгарию освободила Россия, а не Польша, Литва или другие страны, и что ему «трудно слышать» об участии других стран в освобождении страны.

— Еще раз вам хочу очень ясно сказать, что Болгарию освободила Россия. Не Польша, не Литва, не другие страны. Хочу откровенно сказать, что для меня трудно было слышать все эти ссылки на участие других стран в освобождении Болгарии. Ни польский сейм, ни литовский сейм не принимали решение о начале войны с османской Турцией. Мы — за историческую правду, господин президент. Мы эту историческую правду завоевали своей кровью, — заявил патриарх Московский и всея Руси.

3 марта Болгария отмечает День освобождения страны от османского ига. В 1878 году по итогам русско-турецкой войны в этот день был подписан Сан-Стефанский мир. Согласно нему, Болгария вышла из состава Османской империи, став независимым государством.

***"Салідарнасць"***

СТАГНАЦЫЯ

# БЕЛАРУСЬ РАЗЬВІВАЕЦЦА АМАЛЬ У ПЯЦЬ РАЗОЎ ПАВОЛЬНЕЙ, ЧЫМ СЬВЕТ

**Эканамічная нарада ў Аляксандра Лукашэнкі разьвеяла міты і паказала гаротны стан беларускай эканомікі. Здавалася б, калі такія правалы ва ўсёй гаспадарцы, то трэба рабіць нейкія радыкальныя захады ў палітыцы ці мяняць урад. Але не. Тыя ж самыя людзі будуць рабіць тое ж самае, што і раней. З тымі ж вынікамі. Такое фатальнае беларускае зачараванае кола.**

Лукашэнка не зьбіраў падобнай нарады ўжо пяць гадоў. Хоць летась некалькі разоў яна стаяла ў прэзыдэнцкім графіку, але так і не была праведзеная. Бо сам кіраўнік дзяржавы адчувае, што гэткія формы працы з высокім чынавенствам ужо даўно не працуюць. Калі казаць пра ўласна эканамічны бок справы, то чыноўнікі ўжо даўно прызвычаіліся і адаптаваліся да грозных вокрыкаў, загадаў, і ўсё гэта мала ўплывае на рэальныя працэсы ў краіне. І з гледзішча піяру гэта не дае ўжо ранейшага эфэкту. Бо за 24 гады адзін і той жа спэктакль усім надакучыў, нават пры таленавітым акторы ў галоўнай ролі. Таму ўсё ператварылася ў сумны рытуал.

Самы галоўны сюжэт нарады прагучаў у самым пачатку. І ён стаў вельмі адметным. Апошнія гады Лукашэнка ўвесь час тлумачыў праблемы ў беларускай эканоміцы вонкавымі прычынамі. Маўляў, крызіс ва ўсім сьвеце, ад нас мала што залежыць. Нават формулу вывеў: 80% нашых сацыяльна-эканамічных праблем — ад сусветных катаклізмаў і толькі 20% — ад недапрацовак ураду.

Такой шчырай ацэнкі эканамічнай сытуацыі і самавыкрыцьця з вуснаў Лукашэнкі мы даўно ня чулі. Ён фактычна прызнаў, што шмат гадоў хітраваў, казаў, мякка кажучы, ня тое, што ёсьць насамрэч.

І вось нарэшце настаў момант ісьціны. Такой шчырай ацэнкі эканамічнай сытуацыі і самавыкрыцьця з вуснаў Лукашэнкі мы даўно ня чулі. Ён фактычна прызнаў, што шмат гадоў хітраваў, казаў, мякка кажучы, ня тое, што ёсьць насамрэч. Паводле БелТА, кіраўнік дзяржавы канстатаваў, што за сем гадоў усясьветны ВУП вырас на 25%, у той жа час рост ВУП Беларусі недацягнуў нават да 6%. Прычыны, якімі ўрад тлумачыць такую сытуацыю — фінансавы крызіс, каньюнктура — зьяўляюцца проста адгаворкамі. «Калі мы расьцём больш павольна, чым іншыя, значыць, мы адстаём. Адстаём ад сьвету ў развіцьці, тэхналёгіях і, вядома, узроўні жыцьця людзей». Гэтае прызнаньне дарагога каштуе. Аказваецца, Беларусь апошнія сем гадоў разьвівалася амаль у пяць разоў павольней, чым увесь сьвет. Гэта ўсё, што трэба ведаць пра беларускую сацыяльную мадэль.

З выступу Лукашэнкі вынікае, што ўсе нібыта дасягненьні ў сацыяльна-эканамічнай сфэры, пра якія кожны дзень апавядаюць дзяржаўныя мэдыя — гэта фікцыя.

Увесь 2017 год афіцыйныя асобы, уключна з самім Лукашэнкам, цьвердзілі пра «пазытыўную дынаміку» ў эканоміцы, рост валавых паказьнікаў. Але вось паводле сацыялягічных апытаньняў, праведзеных дзяржаўнымі службамі, палова жыхароў краіны лічыць, што летась сацыяльна-эканамічная сытуацыя працягвала пагаршацца, каля 40% апытаных зьмен не заўважылі. Гэта значыць, 90% насельніцтва ва ўпор ня бачаць гэтай «пазытыўнай дынамікі».

З выступу Лукашэнкі вынікае, што ўсе нібыта дасягненьні ў сацыяльна-эканамічнай сфэры, пра якія кожны дзень апавядаюць дзяржаўныя мэдыя — гэта фікцыя.

Дзяржаўныя мэдыя радасна паведамілі, што сярэдні заробак у сьнежні склаў 995 рублёў. То бок фактычна даручэньне Лукашэнкі аб заробку ў 1 тысячу рублёў выкананае. Але сам кіраўнік дзяржавы вельмі скептычна ставіцца да гэтага

*(працяг на стар. 4)*

СТАГНАЦЫЯ

*(пачатак на стар. №3)*

«дасягненьня»: «Вы ж літаральна выціснулі з прадпрыемстваў гэтую сярэднюю тысячу ў канцы году. Але дзьве трацiны насельніцтва практычна гэтага заробку ня бачылі. У паловы — ніжэйшы за 650 рублёў. А 10% насельніцтва краіны змаглі зарабіць ня больш за трыста рублёў... Паводле маёй інфармацыі, дасягненьне і ўтрыманьне ў 2018 годзе заробку на ўзроўні тысячы рублёў не пацьвярджае ніводная з абласьцей». Плюс да ўсяго, «закрэдытаванасьць рэальнага сэктару расьце». Значыць, узялі крэдыты, каб выплаціць патрэбны заробак адзін месяц і выканаць заданьне Лукашэнкі.

Яшчэ адна фікцыя. Урад і аблвыканкамы далі справаздачу аб выкананьні пляну ў стварэньні высокапрадукцыйных працоўных месцаў. Насамрэч такіх месцаў — прыкладна 5% ад створаных. «А мясцовыя выканкамы бачаць задачу — трымаць і не звальняць».

Эканамічныя ўлады адрапартавалі аб скарачэньні замежнага доўгу. Лукашэнка канстатуе: дзяржаўны доўг расьце хутчэй, чым эканоміка. «Пагасілі $2,3 млрд, а ўзялі амаль $3,5 млрд».

Падобная сытуацыя з інфляцыяй. Афіцыйна яна склала ў 2017 годзе 4,6%. Лукашэнка абвяргае: «Людзям усё роўна, якая ў нас у краіне сярэдняя інфляцыя. Яны робяць высновы па цэнах на тавары, якія купляюць кожны дзень. А там рост як мінімум на 8-10% за год. А калі паслугі сюды дадаць, то і больш».

Засталося даць адказ на пытаньне: хто ў гэтым вінаваты? Адказ відавочны, і большасьць беларусаў яго ведае.

Меркаваньні, выказаныя ў блогах, перадаюць погляды саміх аўтараў і не абавязкова адлюстроўваюць пазыцыю рэдакцыі.

**www.svaboda.org**

РАСЕЙСКАЯ ПАПСА

# «ТАК НІЗКА, ЯК У КЛІПЕ, БЕЛАРУСАЎ ЯШЧЭ НЕ АПУСКАЛІ»

**Меркаванне Рыгора Сітніцы пра нашумелы кліп гурта «Ленінград» з'явілася на сайце саюза.**

З вялікай прыкрасцю ды агідай паглядзеў у сецiве відэакліп Вадзіма Галыгіна і гурту «Ленинград», якім гэтыя «прикольные пацаны» павіншавалі жанчын з прыгожым святам. Нават і не прыгадаю, калі яшчэ нас, беларусаў, так нізка апускалі. Алкашы, дэбілы, дэгнраданты, прыдуркі з трасянковай лексікаю алігафрэнаў, якая перакладаецца ў цітрах на «правильный высококультурный язык». І ўся гэтая падвальна-гаражная брыдота суправаджаецца базарна-бардэльным хорам тутэйшых лярваў з прыпевам «хочацца мужыка, лезе ў трусы рука…». А дырыжыруе гэтаю гідотай народны, здавалася б, артыст Ярмоленка, а на падпеўках — наша бізнес-women Грыбалёва. Што й казаць, дыхтоўны ўнёсак у творчую біяграфію.

Вось такімі нас, беларусаў, бачаць маскоўскія «шнуры» ды іх тутэйшыя лёкаі, гатовыя за тры панскія капейкі патаптацца па ўласным гонары, якога, падобна, няма, а можа ніколі й не было. Ды каб толькі па ўласным, то й хай сабе, але ж патапталіся яны па нацыянальным гонары кожнага з нас, незалежна ад таго, усведамляе гэта хто, ці не. Баюся, што большасць тутэйшых палічыць гэта проста «классным приколом», прынамсі «tut.by» ды «Наша Ніва» на сваіх старонках у інтэрнэце не прамарудзілі ўслужыць вясёламу «барину».

Спрабую, ды ніяк не выходзіць уявіць, што гэткае нешта Шнур з дапамогаю тамтэйшых «приколистов», зняў бы, скажам, пра літоўцаў, палякаў, латышоў, азербайджанцаў, а тыя хуценька перапампоўвалі б «прикол» на свае старонкі, каб як найболей «лабусаў», «азераў» ды «пшэкаў», пасмакавалі той плявок. Не думаю, што гэткае магчыма. А намі спадарства, як бачым, можна падцерціся, а мы яшчэ і ўсцешыліся: «ах, как прикольно!». Бо ўжо зараз «tut.by» заклікае на канцэрты адэпта расійскага брыдкаслоўя гурта «Ленинград», якія адбудуцца ажно ў кастрычніку. Служым «барину» і прагнем, каб ён наваліў на нас яшчэ болей.

Той, хто дазваляе называць сябе быдлам, відаць, таго й заслугоўвае, а той, хто робіць выгляд, што плявок у вочы — гэта Божая раса, хай пахалопску ўціраецца ды яшчэ й падзякуе за смачны плявок, які, аказваецца, усяго толькі «классный прикол». Ну а тыя, хто плявок называе хамствам, а дэманстратыўную абразу — абразай, маюць усе шанцы быць запісанымі ў «колхозники» і «курицы», таму што з-за сваёй цемнаты і тупасці назаўсёды засталіся ў мінулым стагоддзі і не разумеюць вытанчанага гумару. «Ну куды нам да нашых землякоў, прасунутых у маскоўскую гламурную тусню?»

Можна было б паразважаць над прыродай тутэйшага плебейства ды самаапляўвання й заніжанага нацыянальнага імунітэту, але зараз не пра гэта. Зараз мне хацелася б пачуць адпаведнае рэагаванне ад Міністэрства культуры ды Міністэрства інфармацыі нашай краіны. Бо хто, як не яны мусяць дбаць пра вобраз нацыі ў вачах тых, што клянецца ў вечнай любові й братэрстве.

Прыгадалася раптам, як колькі гадоў таму нейкая камісія на чале з М.І. Чаргінцом забараняла канцэрты сусветна знакамітага нямецкага гурта «Rammstein». Во дзе, сапраўды «прикольно».

P.S. Зашмат было б гонару для былых гламурных беларусаў палемізаваць з імі, тым больш даўно ўжо не страшна быць імі залічаным у рэтраграды ды «колхозники», што цалкам пазбаўленыя пачуцця гумару ды самаіроніі. Ну тут справа ў якасці гумару: адна справа — Жванецкі ці, нават нашы Саша і Сірожа, другая — шнуры з галыгінымі. А галоўнае — самы час прыгадаць беларусам, што калісьці наш народ меў да 7% шляхты, жыццёвым прынцыпам і лозунгам якіх быў кліч «Гонар маю!» Жыве Беларусь!

**Рыгор Сітніца**
**belartunion.by**

РЭГІЁНЫ

# ЛУКАШЕНКО ОЗАБОТИЛСЯ РАССЛОЕНИЕМ РЕГИОНОВ

**Что с ними не так? Александр Лукашенко обеспокоился неравномерным развитием белорусских регионов. На эту тему он высказался во время отчета правительства, Национального банка, облисполкомов и Мингорисполкома об итогах работы экономики за прошлый год.**

«Нельзя игнорировать те процессы внутри страны, которые уже стали устойчивыми. Я говорю о межрегиональном расслоении», — приводит слова президента его пресс-служба.

В качестве примера неравномерного развития регионов он привел динамику валового регионального продукта за последние годы.

«Развитие есть только у Минской и с большой натяжкой у Гродненской областей. Валовой региональный продукт этих регионов за прошлую пятилетку и два года текущей вырос в Минской на 28% и в Гродненской на 13%. Остальные регионы стагнируют: за 7 лет Брестская область прибавила всего около 5%, Гомель — 3%, Витебская — 2%, а валовой региональный продукт Могилевской области за 7 лет даже сократился», — озвучил цифры Александр Лукашенко.

Разрыв в развитии между регионами хорошо характеризует такой показатель как номинальная начисленная среднемесячная заработная плата.

Если за 2017 год в самых бедных Шарковщинском и Ушачском районах средняя зарплата составила 473,5 и 516,9 рубля, то в самых богатых Солигорском районе и Минске — 1185,9 и 1135,5 рубля, соответственно.

Разница в зарплатах объясняется наличием либо отсутствием крупных производств в регионе. Например, в Солигорском районе работает «Беларуськалий», а в Минске — Парк высоких технологий (ПВТ), где традиционно получают самые высокие зарплаты в стране.

«В регионах нет новых центров роста. У нас как были в первую очередь Солигорск и Минск, так они и остаются. Других центров роста, где бы регион создавал положительные экстерналии для соседствующих регионов, нет», — констатировал научный сотрудник Центра экономических исследований BEROC Олег Мазоль.

На высшем уровне выход из ситуации видят в создании новых предприятий.

«В этих целях наше небогатое государство по крупицам собирает деньги и направляет их в инвестиционные проекты», — сказал во время отчета Александр Лукашенко.

Однако, отметил Олег Мазоль, попытки создания новых рабочих мест в первую очередь ориентированы на конъюнктуру, поэтому не являются эффективными. В качестве примера такого предприятия эксперт привел строительство аккумуляторного завода под Брестом.

«Скорее всего, в долгосрочном плане этот проект будет неэффективен. То есть, такие производства нацелены на текущую конъюнктуру. Разработчики проекта видят, что сейчас есть спрос, а то, что будет через пять лет, их, наверное, не интересует», — отметил экономист.

**Разрыв между регионами в Беларуси будет увеличиваться и дальше из-за старения населения и миграции в крупные города либо за рубеж, где есть хорошо оплачиваемая работа.**

«А человеческий капитал у нас не безграничен. Просто так заменить людей рабочих профессий не получится. Если привлекать из других стран, то нужно обеспечить более высокую зарплату. Или потратить больше денег на переквалификацию, что создает дополнительную нагрузку на бюджет. А поскольку в регионах нет эффективных производств, то нет спроса на более квалифицированную рабочую силу. Получается замкнутый круг, в результате которого регионы могут остаться без людей в трудоспособном возрасте», — прогнозирует научный сотрудник Центра экономических исследований BEROC.

Это в свою очередь приведет к дальнейшему расслоению и увеличению количества депрессивных регионов.

«У нас сейчас, по сути, исчезают деревни, а дальше будут исчезать и целые районные города», — полагает Олег Мазоль.

По данным исследования BEROC, в сельской местности уровень абсолютной бедности выше, чем в городе. В 2016 году на селе он составил 40,55% населения, в то время как в городе — 25,27% населения. По данным выборочного обследования домашних хозяйств, в четвертом квартале 2017 года за чертой бедности в Беларуси находилось 5,9% населения. В Брестской области — 8,4%, в Минске — 1,6%.

Без реформ изменить ситуацию в регионах невозможно, считает экономист. По его словам, людям нужно дать возможность самим зарабатывать деньги. В регионах — в первую очередь в сельском хозяйстве.

«Не ориентироваться на крупные агропромышленные комплексы, а давать возможность людям выращивать продукцию и создавать другие семейные бизнесы, чтобы люди сами могли себя прокормить и обеспечить развитие своим семьям», — подчеркнул экономист.

**"БЕЛАПАН"**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 16.03.2018 у 15.20**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.